ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года | №91 (4449) СУБОТА, 12 лістапада 1994 года | Кошт па падпісцы — 16 руб., у розніцу — 60 руб.

# ТРЫВОГІ І НАДЗЕІ НАСТАЎНІКА

ДАКУЛЬ?

## А ДЗЯРЖАВА НАЗІРАЕ...

На працягу апошніх двух гадоў мы не маем магчымасці своечасова атрымліваць заработную плату. А зараз апынуліся і зусім на мяжы жабрацтва. Апошні раз нас разлічылі ў чэрвені, выдаўшы зарплату і адпускныя. У сярэднім кожны атрымаў, здавалася б, значную суму (1,5 млн. руб. на старыя разлікі). Але ж інфляцыя "з'ела" гэтыя грошы амаль за месяц. Так што ўся надзея была на вераснёўскую зарплату: і з даўгамі за лета разлічыцца, і прадуктамі забяспечыць сям'ю, і тое-сёе дзецям з адзення купіць. І што ж? Выдалі нам "аванс" (інакш гэтыя 70 — 80 тыс. руб. не назавеш) — жыві, як хочаш, а наперадзе зіма. Трэба і бульбы для сям'і купіць, і зімні абутак, і шчыток пабудаваць, бо калгас адмовіўся ацяпляць кватэры. Ды гэта хіба ўсё?

І на сённяшні дзень (2 лістапада) мы не атрымалі ні пераразліку за жнівень, ні прэміі за жнівень—верасень, ні зарплаты за кастрычнік. Як нам растлумачылі загадчык райана В.П.Бабічаў і старшыня райвыканкама Я.С.Ганчароў, усе грошы ідуць на выплату даўгоў райана ў харчгандаль і сельэнергію. Але пры чым тут настаўнікі? Чаму даўгі плацяцца з нашай кішэні? Хто зменіць такую сітуацыю і ўрэшце рэшт выплаціць тое, што мы зарабілі? Ні ў адной цывілізаванай краіне свету настаўнікі не знаходзяцца ў такім жахлівым, прыніжаным стане. Хіба можа нармальна працаваць чалавек, калі ў яго няма на кавалак хлеба, а яго дзеці ходзяць амаль галодныя, калі тэмпература ў класах +3? І гэта пры тым, што ў мінулым годзе школа так-сяк ацяплялася?

Забеспячэнне элементарных умоў працы і жыцця настаўніка — абавязак любой дзяржавы, якая глядзіць у будучае. Бо настаўнік, вымушаны трымаць уласную гаспадарку або гандляваць на стадыёне — гэта яскравы паказчык духоўнага крызісу і культурнага збяднення нацыі. І жахліва, калі дзяржава спрыяе гэтаму.

Калектыў настаўнікаў Амбрасавіцкай сельскай школы Шумілінскага раёна Віцебскай вобласці.

Усяго 16 подпісаў.

НЕ МАГУ МАЎЧАЦЬ

## БЛЭК ЭНД УАЙТ?

Калі б мне хто-небудзь сказаў, што ў нас, у Беларусі, дзяржава падзяліла і ўзаконіла (вось што цікавае і галоўнае!) дзяцей-сірот на "белых" і "чорных", не тое што не паверыў бы, але і да хрыпаты спрачаўся б і даказваў: гэта няпраўда, такога няма і быць не можа. І, як кажуць, застаўся б у дурнях, няправым.

Цяпер жа на ўласным і горкім вопыце пераканаўся: такі падзел ёсць, і ён дзейнічае.

Каб не быць галаслоўным у сваім сцвярджэнні, звярнуся да прыкладу. Дык вось, аказваецца, калі застаецца сіратою дзіця высокааплачваемага чыноўніка, то яму, дзіцяці, налічваюць адпаведна і максімальную пенсію па прычыне страты кармільца. Ну, а калі сірацее дзіця, напрыклад, таго ж зацюканага настаўніка, работніка культуры, доктара ці іншага чалавека з нізкім акладам ці заробкам, то выдаецца ўсяго толькі мінімальная пенсія, гэта значыць настолькі мізэрная, што за яе немагчыма нават пракарміцца. А як тады з адзеннем, абуткам, цацкамі, гульнямі, кніжкамі ды й тымі ж ласункамі? Але мяне перш за ўсё здзіўляе тое, чаму прынята такая бязглуздая пастанова. Відавочна, што яе прынялі не ў інтарэсах простага, працоўнага люду.

У чым жа вінавата сіраціна-дзіця, бацькі якога атрымлівалі невялікую зарплату? Чаму яно павінна атрымліваць самую нізкую пенсію? Няўжо нешта падобнае ёсць у той жа Амерыцы ці краінах Заходняй Еўропы?

На мой погляд, трэба гэты падзел дзяцей-сірот на "чорных" і "белых" тэрмінова ліквідаваць. Трэба, каб дзяржава вызначыла памер пенсіі ўсім аднолькавы і ў адпаведнасці толькі з узростам. І падлічыць расходы на ўтрыманне дзяцей, мне думаецца, не так цяжка, тым больш, што ёсць каму гэта зрабіць. Тады будзе па-іншаму ўспрымацца артыкул 25 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб правах дзіцяці", дзе сказана: "Дзеці, якія засталіся без бацькоўскай апекі, маюць права на асаблівы клопат з боку дзяржавы аб умовах іх жыцця і развіцця"... Бачыце, як хораша сказана. Не прыдзярэшся.

Паколькі ў артыкуле 36 гаворыцца, што "каардынацыя намаганняў дзяржаўных і недзяржаўных арганізацый па рэалізацыі гэтага Закона ажыццяўляецца Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь", то я і рашыў выкарыстаць старонкі "Настаўніцкай газеты". З другога боку, а хто ж, калі не наша газета, узніме гэтае пытанне і давядзе яго да разумнага, лагічнага канца.

Іван ГОВАР,
настаўнік.

ПЫТАННЕ РУБАМ

## Каго рыхтуем: партнёраў ці "перабежчыкаў"?

Тры апошнія гады мне даводзіцца мець справу з паездкамі ў Польшчу, якія звязаны з вучобай на курсах польскай мовы ў Любліне — горадзе, дзе месціцца сядзіба фундатара дапамогі польскім школам на Усходзе імя Ганевіча. Менавіта гэтая арганізацыя разам з Настаўніцкім інстытутам паланістыкі і арганізоўваюць вось такія курсы, на якія прыязджаюць настаўнікі польскай мовы з гэтак званага "усходу": Беларусі, Украіны, Літвы, Латвіі, Малдовы, Расіі, Казахстана і Узбекістана. Што адразу кідаецца ў вочы на гэтых курсах, дык гэта тое, што амаль палова ўсіх курсантаў прыязджае з Беларусі — краіны, дзе ўсяго 10 мільёнаў насельніцтва. Другі "цікавы" факт: паміж сабою гэтыя выкладчыкі "чамусьці" не размаўляюць па-беларуску ці па-польску, а ... па-руску! Як быццам бы яны прыехалі з Расіі. Асабліва ігнаруюць беларускую мову курсанты з заходніх абласцей Беларусі — Брэсцкай і Гарадзенскай. Есць ненавіснікі беларускай мовы і з Віцебскай: настаўніца пані Валянціна (не буду называць яе прозвішча, але калі яна чытае газету, няхай задумаецца над сваімі паводзінамі ў Любліне). Калі я даведаўся пры знаёмстве з ёю, што яна з Беларусі, і звярнуўся да яе па-беларуску, кінула мне рэзка у твар, што яна "полька, не разумее мову беларусаў, лічыць яе грубай і прынцыпова на ёй не размаўляе!". Можаце ўявіць маё становішча пасля такой "заявы" кабеты, якая жыве ў звычайным райцэнтры ў правінцыі.

Безумоўна, не я адзін заўважыў гэты "парадокс" у паводзінах настаўнікаў з Беларусі. Заўважылі гэта і мае калегі па "камандзе" ўкраінскай, мае новыя знаёмыя з Літвы, Латвіі і Малдовы. Пані Юлія Цыбульская з Кішынёва ў размове са мной выказала такую думку: "Як могуць такія настаўнікі працаваць у дзяржаўных школах краіны, мову якой яны ігнаруюць?!" Мне хацелася так і дабавіць да гэтага: і не ведаюць якой, і, што яшчэ горш, і не збіраюцца яе вывучыць і загаварыць!..

Безумоўна, узяўся я напісаць ліст у "Настаўніцкую газету" не для таго, каб сказаць, якімі манкуртамі ў Беларусі з'яўляюцца выкладчыкі польскай мовы, бо гэта ж самае можна будзе сказаць і пра настаўнікаў іншых прадметаў: рускай мовы, іншых замежных моў, матэматыкі і г.д. І ў той самы час ёсць сапраўдныя настаўнікі-патрыёты ў Беларусі, якія і мову беларускую ведаюць, і карыстаюцца ёю ў сваёй рабоце. Дарэчы, з адным такім, спадаром Янам Талпыгам з Віцебска, мне пашчасціла спаткацца ў Любліне, за што я быў вельмі ўдзячны лёсу — хоць адна родная душа знайшлася, з якою можна было размаўляць на роднай мове... Але гэта — кропля ў моры, бо разам з Янам у беларускай групе было больш за 50 настаўнікаў. Удумайцеся ў гэта, шаноўныя спадары!

А зараз пра другі бок справы. Беларусь — незалежная і суверэнная дзяржава, у якой дзяржаўнай мовай з'яўляецца беларуская мова. А калі так, то ўсе дзяржаўныя служачыя павінны валодаць гэтай мовай, карыстацца ёю ў сваёй прафесійнай дзейнасці. На прыкладзе ж настаўнікаў польскай мовы што мае беларуская дзяржава? Людзей, якія служаць інтарэсам суседняй дзяржавы — Польшчы. Вяртаючыся з курсаў, яны з галавой кідаюцца праводзіць палітыку "паланізацыі" падрастаючага пакалення. Я не маю нічога супраць таго, каб палякі ці беларусы ў Беларусі валодалі польскай мовай, я магу гэта толькі вітаць, бо сам з'яўляюся зараз настаўнікам дзвюх замежных моў ва ўкраінскай школе: рускай і польскай. Але тое, што даводзіцца чуць ад выкладчыкаў-палякаў на такіх вось курсах, асабіста мяне прымушае задумацца: а куды ж скіраваны зараз інтарэсы польскай дзяржавы?! Адказ з усяго адзін — на той самы "усход", або, як палякі гавораць і пішуць — "на кшэсы всходне", маючы на ўвазе вялікую тэрыторыю, якая праходзіць па Беларусі, Літве, Украіне... Польскі шавінізм адраджаецца шпаркімі крокамі, і праваднікамі і прапаведнікамі ідэй польскага імперскага шавінізму якраз становімся міжволі і мы, настаўнікі польскай мовы, якім убіваюцца ў галовы падчас курсаў гэтыя самыя ідэі. На першы погляд, што можа быць дрэннага ў вершыку "Кто ты естэсь?", які змешчаны на аркушы паперы, што нам раздавалі на апошніх, чэрвеньскіх курсах гэтага года ў Любліне? А там жа змешчаны і іншыя, так сказаць, суперпатрыятычныя вершы польскіх паэтаў: аб польскай мове, пра польскага белага арла і г.д., і да т.п. Уся розніца вось у чым: для вучняў польскай школы ў Польшчы гэтыя вершы павінны быць завучаны напамяць, бо гэта іх Бацькаўшчына апяваецца ў гэтых вершах. А чаму навучацца маленькія жыхары Беларусі па гэтах вершах? Толькі ўдумайцеся ў тэкст памянёнага ўжо верша "Кто ты естэсь?":

Хто ты ёсць? Паляк малы, Які герб твой? Арол белы!..

Не цытую далей, бо і так зразумела, што ў школах Беларусі такія "вершы" (хай сабе і на ўроках польскай мовы) не павінны гучаць. Для грамадзян Беларусі любой нацыянальнасці ў нашай краіне ёсць толькі адзін герб — Дзяржаўны Герб Рэспублікі Беларусь "Пагоня"! Таму я лічу, што навучанне польскай мове павінна весціся толькі па падручніках польскай мовы, якія выпушчаны выдавецтвам "Народная асвета" і зацверджаны Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь! Вось у гэтым уся і бяда, што гэтымі падручнікамі мала хто і карыстаецца. Ва ўсялякім разе з тых настаўнікаў, каго я спаткаў на курсах у Любліне, амаль ніхто. Дык па чым жа яны вучаць дзяцей, спытаецеся вы? А па падручніках, якія выдаюцца ў Любліне ўсё гэтай самай "фундацыяй". А іх піша ўсім нам вядомая Хелена Мэтэра, якая свае матэрыялы будуе на гістарычным матэрыяле метраполіі, не ўлічваючы асаблівасцяў Беларусі, Украіны ці Літвы, Латвіі, Малдовы... І чытаеш у падручніках такія тэксты, якія, акрамя шкоды ў патрыятычным выхаванні грамадзянскага самапачуцця жыхара Беларусі ці Украіны, аніяк не даюць... А такіх "падручнікаў" на Беларусь ужо трапіла нямала: толькі па стане па 1.01.93 г. (даныя з часопіса "Рота" №1/9/ 93 г.) завезена 6.610 буквароў "Чытаю папольску" Хелены Мэтэры, 7.300 паасобнікаў падручніка для 2 класа "Палюбі польскую мову" Хелены Мэтэры, тысячы розных іншай літаратуры: метадычных дапаможнікаў для настаўнікаў, рэлігійнай літаратуры, польскіх календароў, часопісаў "Рота" і г.д. агульным накладам у 128.100 паасобнікаў (для параўнання: для 50-мільённай Украіны такой літаратуры завезена амаль удвая менш — 69.500 паасобнікаў...).

Думаецца мне, што Міністэрству адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь патрэбна неадкладна зацікавіцца справаю выкладання польскай мовы ў школах Беларусі: каго гэта школа рыхтуе для Беларусі — грамадзян-патрыётаў сваёй Бацькаўшчыны ці заўтрашніх "перабежчыкаў" у суседнюю дзяржаву, гэтак званую "гістарычную Ойчызну"... Але ж грошы за навучанне і выхаванне "польскага патрыятызму" плацяцца не з кішэні польскіх падаткаплацельшчыкаў, а беларускіх! І настаўнікі-манкурты гэтаксама "кормяцца" не за кошт польскай дзяржавы, а за беларускія рублі, зноўтакі з кішэняў беларускіх падаткаплацельшчыкаў!.. Таму будзе рэзонным і справядлівым сказаць такім вось настаўнікам, што ў суверэннай краіне няможна есці хлеб гэтай дзяржавы, а служыць дзяржаве суседняй!

Прыняты Закон аб нацыянальнай школе Беларусі, Закон аб мовах Рэспублікі Беларусь, якія павінны няўхільна выконвацца усімі, у тым ліку і настаўнікамі польскай мовы ці польскіх класаў, якія ўжо растуць, як грыбы, у Гарадзенскай вобласці. Трэба усвядоміць, што вяртанне ў гэтак званыя "кшэсы всходне" ў складзе Польшчы ніколі не адбудзецца, што Беларусь будзе бараніць сваю не толькі тэрытарыяльную цэласнасць, але і змагацца супраць розных праяў шавінізму, з якога б боку дзяржаўнай мяжы ён ні імкнуўся ў Беларусь.

Магу сабе ўявіць, колькі пасыплецца лістоў-пратэстаў у адказ на мой ліст. Але, шаноўныя калегі, у мяне ёсць шмат пераваг перад вамі: я таксама выкладаю польскую мову, але не па падручніках Хелены Мэтэры — на Украіне выдаюцца свае падручнікі для польскіх школ: у Львове ўвесь пасляваенны час працавала польскамоўная сярэдняя школа, для якой выпускаліся і падручнікі. Апроч таго, я выкарыстоўваю ў сваёй працы падручнікі польскай мовы і чытанкі, якія выдаюцца ў Вільні і Мінску. Гэта нармальныя падручнікі, нейтральныя ў адносінах да Польшчы,у іх адсутнічае польскі шавінізм! І як бы вы там на курсах у Любліне ні "кланяліся" перад Хеленай Мэтэрай, не расхвальвалі яе падручнікі, яны ні ў якое параўнанне не ідуць з падручнікамі, якія выпускаюцца на дзяржаўным узроўні ў Беларусі, на Украіне і Літве і якія зацверджаны міністэрствамі адукацыі гэтых краін. Падручнікі ж Хелены Мэтэры — напаўаматарскія, міністр адукацыі Польшчы не мае да іх ніякага дачынення!

Другая мая перавага — я не прадаўся за "карамелькі", быў, ёсць і застаюся назаўжды патрыётам Беларусі, хаця ўжо за 20 гадоў жыву за яе межамі. Нягледзячы на тое, што ў маіх жылах цячэ кроў не толькі беларуская, але і польская, што я хаджу не ў царкву, а ў касцёл, што для мяне абедзве мовы родныя, родныя ў аднолькавай ступені! Але гэта не перашкаджае мне цвяроза ацэньваць сітуацыю як у Беларусі, так і ў Польшчы. І калі беларусы былі і надалей застаюцца талерантнымі людзьмі, то палякі заўсёды імкнуліся пашырыць свой уплыў на суседнія народы, у тым ліку на беларусаў. І ужо так "паўплывалі" на Беласточчыне, што там не засталося роднай беларускамоўнай школы хаця б дзе-небудзь у аддаленнай вёсачцы: усе спрэс польскамоўныя! А чаму так сталася, вы ведаеце, напэўна, не горш за мяне!

Таму перш чым адкрываць польскамоўныя класы і школы ў Беларусі, трэба заключыць дамову з польскай метраполіяй аб адкрыцці беларускамоўных школ і ліцэяў у Польшчы, і ў першую чаргу на гістарычных беларускіх землях Беласточчыны, якія пасля вайны 1941—45 гадоў апынуліся ў складзе Польшчы. Бо калі гэтага не зрабіць, то ўжо вельмі хутка большая частка тэрыторыі Гарадзеншчыны так "паланізуецца", што пачне патрабаваць сваёй "польскай аўтаноміі" па прыкладзе сваіх кроўных братоў з Віленшчыны ў Літве. Гэтага дапусціць нельга, бо Гарадзеншчына — адно з нямногіх месцаў, дзе не так шмат зямлі пацярпела ад наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, і беларусам трэба захаваць свой радавод ад нацыі! Урэшце рэшт у палякаў ёсць Польшча, у беларусаў ёсць шматпакутная, засыпаная чарнобыльскім попелам Беларусь. І ім няма куды перабрацца з гэтай зямлі...

... Мэта майго артыкула — не заклік да канфрантацыі. Польскую мову па жаданні можа вывучаць, гэтаксама як і рускую ды іншыя мовы суседніх з беларусамі народаў, кожны з грамадзян Беларусі, бо чым больш моў ведае чалавек, тым ён багацейшы. Але нельга ператвараць вывучэнне польскай мовы ў палітыку! Горкі вопыт "русіфікацыі" мы ўжо праходзілі. А на Беларусі, на мой погляд (дай бог, каб я памыляўся), ён яшчэ не спынены, таму мы не павінны дапусціць яшчэ і "паланізацыі". І падабаецца гэта этнічным ці пашпартным палякам ці не падабаецца, яны павінны ўсвядоміць, што лёсам ім наканавана жыць не ў польскай метраполіі, а ў незалежнай дзяржаве Беларусь!

Пятрусь КАПЧЫК,
філолаг, выкладчык рускай і польскай моў сярэдняй школы №1 г.Ізяслава Хмяльніцкай вобласці.

БОЛЬ

## "ЖЫВІЦЕ СПАКОЙНА"

Добры дзень, паважаная рэдакцыя!

У думках ужо не раз звярталася да вас, але разважала: як вы можаце дапамагчы? Вы — звычайныя людзі, можа і самі жывяце не ў лепшых умовах, а калі ў Вас усё добра, то тым горш — у наш час сыты галоднаму не спагадае. Але ўсё ж пішу, спадзеючыся на Вашу дапамогу, бо больш звяртацца няма куды.

Я закончыла Магілёўскае педвучылішча ў 1974 г. і матэматычны факультэт Мінскага педінстытута ў 1981 г. Працую настаўніцай пачатковых класаў ва Усяжскай сярэдняй школе Смалявіцкага раёна Мінскай вобласці. Жыву з мужам і дзецьмі (сыну — 12 год, дачцэ — 8) у аднапакаёвай кватэры. Ніяк не магу палепшыць свае жыллёвыя ўмовы.

У сельскім Савеце паставілі ў чаргу на паляпшэнне жыллёвых умоў, але няма ў сельсавеце жыллёвага фонду. Будуе кватэры толькі торфабрыкетны завод "Усяж", які знаходзіцца ў тым жа пасёлку, што і школа. Я неаднаразова звярталася да адміністрацыі завода, каб мяне паставілі ў чаргу, але мне адказвалі, што я — настаўніца — не маю ніякага дачынення да гэтага завода, бо мой муж там не працуе. Калі я звярнулася да старшыні раённага Савета Кузняцова Алега Аляксандравіча (дарэчы, да гэтай пасады ён быў дырэктарам у нашай школе), то ён адказаў, што нічым не можа дапамагчы, няма ў Савета грошай, каб у завода выкупіць лепшую кватэру (маю на ўвазе трохпакаёвую) для настаўніцы і яе сям'і. Дык дзе ж шукаць выйсце? А тут са здароўем пачаліся складанасці, пачала ездзіць у анкалагічны цэнтр. Урачы кажуць: жывіце спакойна, больш адпачывайце. А Божухна! Дзе адпачываць? У аднапакаёвай кватэры? Для працы пісьмовага стала няма дзе паставіць, дзеці па чарзе робяць урокі на складной парце. То Вы ўжо, калі ласка, не пакіньце без увагі маё пісьмо. Сорамна прасіць, але ж вельмі балюча на душы.

З павагай і надзеяй
КАСАЧОВА
Галіна Васільеўна.

Я МЯРКУЮ ТАК

## Выратаванне тапельцаў— справа саміх тапельцаў

Многія настаўнікі звярнулі ўвагу на артыкул У.Дрыгайлоўскага "Веды, інтэлект—галоўны капітал дзяржавы". У прыватнасці, настаўніцы нашай школы з задавальненнем адзначалі: было б вельмі добра, каб хаця частка прапаноў аўтара не засталася марай. З гэтым, думаю, пагодзяцца і шматлікія чытачы "Настаўніцкай газеты".

Так, з думкамі аўтара нельга не пагадзіцца, калі разглядаць іх накіраванымі ў будучыню, у якой невуцтва не будзе ўжо прасякаць усе сферы нашага жыцця. І не будзе шэрасць і бяздарнасць, па ацэнцы аўтара, як іржа, раз'ядаць наша грамадства. Але калі рэалістычна глядзець на перспектывы развіцця нацыянальнай сістэмы адукацыі, магчымасці задавальнення патрабаванняў настаўніцтва, то відавочна, што большасць нашых жаданняў будзе чакаць лепшых часоў. І перспектыўным мне бачыцца перш за ўсё абмеркаванне тых крокаў, якія здолелі б наблізіць час, калі грамадства кардынальна павернецца тварам да праблем адукацыі.

Трэба зыходзіць з той горкай рэальнасці, што большасць насельніцтва не ўспрымае голас інтэлігенцыі як голас розуму, не давярае лепшым інтэлектуалам, партнёрам Беларусі. Думаю, што да гэтага прывялі дзесяцігоддзі абслугоўвання інтэлігенцыяй інтарэсаў кіруючай і накіроўваючай сілы грамадства, як канстытуцыйна была засведчана роля кампартыі. Недавер да інтэлігенцыі выклікан і тым, што некалькі пакаленняў педагогаў вучылі любіць перш за ўсё КПСС, Леніна і яго паплечнікаў і амаль не вучылі любіць бацькоў і сваю радзіму — Беларусь.

Упэўнены, што грамадства тым хутчэй зразумее патрэбы адукацыі, чым хутчэй і якасней будуць педагогі несці агульначалавечую культуру народу. Перш за ўсё культуру, пазбаўленую кампартыйнага дагматызму, культуру, якая дапамагае даць адказы на шматлікія пытанні нашага крызіснага часу.

Нягледзячы на тое, што адукацыйная сістэма з'яўляецца даволі кансерватыўнай сістэмай, якая вельмі марудна набывае новыя якасці, захоўваючы доўгі час рысы мінулага, тым не менш сярод педагогаў Беларусі ёсць асобы, якія добра адчуваюць пульс сучаснасці. Даволі яскрава аб гэтым сведчыла мінулагодняя канферэнцыя педагогаў, што прыняла рашэнне аб падрыхтоўцы да страйку. Сёння відавочна, што патрабаванне ў той час адстаўкі банкрутнага ўрада Кебіча было адзіным правільным крокам, які падняў бы аўтарытэт педагогаў у грамадстве, зрабіў бы лагічным страйкавыя дзеянні. У час прэзідэнцкіх выбараў Беларусь выказала поўны недавер ураду Кебіча, нягледзячы на моцны прапагандысцкі прэс, але педагогі да гэтага ўжо не мелі дачынення.

Нам трэба вучыцца хаця б на ўласных памылках, імкнуцца не рабіць іх у будучым. Калі амаль усе педагогі аб'яднаны ў прафсаюзе, то патрэбна як мага лепей выкарыстоўваць магчымасці арганізацыі педагогаў. Выдатны сацыял-дэмакрат Бернштэйн, дарэмна зневажаемы бальшавікамі, у свой час геніяльна заўважыў: "Канчатковая мэта — нішто, рух — усё". Мэта можа быць тэарэтычным прывідам, але нашы штодзённыя рацыянальныя крокі наперад рухаюць жыццё да лепшага. Такім невялікім крокам магло б стаць дакладнае вызначэнне тэрмінаў атрымання авансаў, заработнай платы, выплаты прэміяльных і іншых законных выплат. Пры галапіруючай інфляцыі ўсякія параўнанні сярэдняга заробку служачага ў прамысловасці і педагога вельмі ўмоўныя. Калі служачы атрымае грошы за жнівень у першыя дні верасня, а настаўнік толькі 30 верасня, то заробак педагога будзе рэальна амаль удвая меншы за афіцыйныя лічбы Дзяржкамстата. Відавочным становіцца неабходнасць уключэння ў пагадненне паміж галіновым прафсаюзам і Міністэрствам адукацыі пункта аб тэрмінах атрымання грошай. Спазненне з выплатай грошай, напрыклад, у тэрмін больш чым на тры дні павінна кампенсавацца з прэміяльнага фонду выканаўчых улад.

Перспектыўным накірункам дзейнасці прафсаюзаў павінна стаць увядзенне індывідуальнага страхавання, за што, дарэчы, выступае Свабодны прафсаюз педагогаў. Было б нядрэнна, каб кожны педагог меў уласны фонд страхавання, складаемы амаль на 40% ад фонду зарплаты, і мог бы выкарыстоўваць яго на аздараўленчыя мэты або перадаваць у спадчыну. Такі парадак пазбаўляў бы настаўніка ад дыктату чыноўніка, не даваў бы знікаць невядома куды амаль 40% нашага прыбытку, як робіцца зараз.

Не магу не сказаць і пра тое, што ў час вялікіх перамен кожнаму грамадзяніну неабходны пэўны мінімум прававых ведаў, а педагогам тым больш. Нам не пашкодзіць добрае веданне законаў, каб лепш адстойваць свае правы. Прафсаюзы маглі б дапамагаць ліквідоўваць прававую непісьменнасць у грамадстве, і гэта толькі садзейнічала б іх аўтарытэту.

Дзеля паскарэння дэмакратычных пераўтварэнняў у нашым прафсаюзе карысным з'яўляецца правядзенне справаздачна-выбарных кампаній не адзін раз у пяць год, а праз чатыры гады — на рэспубліканскім узроўні і праз 2—3 гады — на раённым, абласным. Наогул, стан спраў у прафсаюзе і наспеўшыя змены ў Часовым статуце патрабуюць асаблівай гаворкі менавіта зараз, калі ўжо ідзе справаздачна-выбарная кампанія.

Сатырык заўважыў: "Выратаванне тапельцаў — справа саміх тапельцаў". Ужо надышоў час, каб зразумець, што самы кароткі шлях да цывілізаванага жыцця ляжыць перш за ўсё праз абуджэнне педагагічнай грамадскасці Беларусі.

Леанід ГАРАВЫ.
Гарадоцкі раён.

# НГ-іНФАРМ

## ПАВЕДАМЛЯЕ ПРЭС-ЦЭНТР МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ І НАВУКІ

# ШТО, ДЗЕ, КАЛІ

### СЕМІНАРЫ, НАРАДЫ, СІМПОЗІУМЫ

10 лістапада Дзяржаўная інспекцыя навучальных устаноў на базе Беларускага дзяржаўнага універсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі правяла семінар-нараду кіраўнікоў органаў, у падпарадкаванні якіх знаходзіцца навучальная ўстанова, па пытаннях атэстацыі і акрэдытацыі навучальных устаноў.

16—17 лістапада ў Магілёве пройдзе Рэспубліканскі семінар па праблемах выкладання інфарматыкі ў 9-х эксперыментальных класах.

У лістападзе ў Нацыянальным інстытуце гуманітарных навук адбудзецца Рэспубліканскі семінар "Праблемы мастацкай адукацыі ў школах з паглыбленым вывучэннем выяўленчага мастацтва і архітэктуры". Удзельнікі семінара — інспектары, метадысты ўпраўленняў адукацыі інстытутаў удасканалення настаўнікаў, намеснікі дырэктараў школ.

22 лістапада ўпраўленнем прафесійна-тэхнічнай адукацыі праводзіцца семінар-нарада "Арганізацыя і формы правядзення ўрокаў вытворчага навучання пры падрыхтоўцы рабочых па прафесіі "Майстар сельскагаспадарчай вытворчасці".

22—23 лістапада ў Магілёўскім хіміка-тэхналагічным тэхнікуме адбудзецца пасяджэнне Рэспубліканскага метадычнага аб'яднання выкладчыкаў спецыяльных хімічных дысцыплін і хімічнай тэхналогіі па тэме "Выкарыстанне новых тэхналогій у падрыхтоўцы спецыялістаў хімічнага профілю".

22—24 лістапада на базе Ваўкавыскага педвучылішча пройдзе семінар-нарада дырэктараў педвучылішчаў і рэктараў педінстытутаў па праблеме "Месца роднага слова, культуры, духоўнай спадчыны ў падрыхтоўцы педагагічных кадраў для нацыянальных школ".

### МІЖНАРОДНЫЯ НАВУКОВА-ПРАКТЫЧНЫЯ КАНФЕРЭНЦЫІ

29—30 лістапада ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце пройдзе навукова-практычная канферэнцыя "Сацыяльныя дзеянні: мэты і вынікі".

### РЭСПУБЛІКАНСКІЯ НАВУКОВА-ПРАКТЫЧНЫЯ КАНФЕРЭНЦЫІ

12—15 лістапада ў Брэсцкім дзяржаўным педагагічным інстытуце адбудзецца навукова-практычная канферэнцыя па праблеме "Рэгіянальныя асаблівасці Берасцейска-пінскага Палесся ў мове, літаратуры і фальклоры".

15—16 лістапада ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце навукоўцы і педагогі краіны збяруцца на навукова-практычную канферэнцыю "Праблемы стварэння нацыянальнай сістэмы падрыхтоўкі педагагічных кадраў для дашкольных устаноў".

15—17 лістапада Беларускі дзяржаўны універсітэт праводзіць навукова-практычную канферэнцыю "Беларуская мова і літаратура ў вышэйшай і сярэдняй школе: праблемы навучання і выкладання".

22—23 лістапада ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце пройдзе навукова-практычная канферэнцыя "Праблемы рэфлексійнай псіхалогіі".

22—23 лістапада ў Мазырскім дзяржаўным педагагічным інстытуце адбудзецца навукова-практычная канферэнцыя "Метадычная падрыхтоўка настаўнікаў працы".

24—25 лістапада ў Гомельскім дзяржаўным універсітэце пройдзе навукова-практычная канферэцныя па пытаннях нармалізацыі беларускай навуковай тэрміналогіі.

24—25 лістапада Беларускі дзяржаўны універсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі праводзіць навукова-практычную канферэнцыю "Вялікія пераўтваральнікі прыродазнаўства: Норберт Вінер".

З 30 лістапада па 2 снежня ў Віцебскім тэхналагічным інстытуце лёгкай прамысловасці адбудзецца навукова-практычная канферэнцыя "Новае ў тэхніцы і тэхналогіі тэкстыльнай прамысловасці".

Віктар ІЎЧАНКАЎ.

# РЭФОРМА ВЫХАВАННЯ

Міністэрствам адукацыі і навукі распрацавана стратэгія рэформы сістэмы адукацыі (гл. "Настаўніцкую газету" ад 26.10.94г.). Несумненна, што праводзіць гэтую рэформу трэба адначасна з перабудовай сістэмы выхавання. Тым болей, што стан выхавання падрастаючага пакалення нас сёння задавальняе яшчэ менш, чым стан яго адукацыі.

Праграма рэформы сістэмы выхавання нам бачыцца складзенай з дзвюх частак: тэарэтычных падстаў (канцэпцыі) і асноўных шляхоў іх рэалізацыі (стратэгіі). Разгледзім гэтыя часткі.

## АСНОЎНЫЯ ПАЛАЖЭННІ КАНЦЭПЦЫІ ВЫХАВАННЯ

### ПАЛАЖЭННЕ 1. У цэнтр выхаваўчай сістэмы павінна быць пастаўлена асоба дзіцяці

Савецкая педагогіка фактычна разглядала дзіця як суб'ект выхавання, на які ўздзейнічаюць выхаваўчыя інстытуты грамадства, педагогікі, бацькі і іншыя ўдзельнікі выхаваўчага працэсу. Педагогіка імкнулася выхаваць паслухмянага члена грамадства, які б арыентаваўся на нейкія вышэйшыя дзяржаўныя і калектыўныя інтарэсы. Такому тэарэтычнаму палажэнню адпавядала і арганізацыйная мадэль школы, яе псіхалагічная атмасфера. Таму і было так няўтульна ў гэтай школе большасці дзяцей.

"Школа для дзіцяці і настаўнік для вучня, а не наадварот" — гэтыя словы ўпершыню прагучалі з вуснаў былога старшыні Дзяржкамадукацыі СССР Г.Ягадзіна у 1989 годзе. Педагогі павінны ўсвядоміць, што іх прафесія і ўстановы, у якіх яны працуюць, патрэбны грамадству менавіта таму, што у іх ёсць дзеці. "Добра было б у школе, ціха і спакойна, каб не было дзяцей", — жартуюць часам настаўнікі.

Сусветная педагогіка мае зусім іншы погляд на асобу, якая развіваецца. У сапраўды дэмакратычным грамадстве — гэта суб'ет выхавання, актыўная істота, фарміраванне і развіццё якой залежаць у першую чаргу ад яе самой.

### ПАЛАЖЭННЕ 2. Культуралагічны падыход да пабудовы зместу выхавання

Культура цывілізацыі ў яе гістарычнай рэтраспектыве павінна стаць асновай новай выхаваўчай сістэмы. У перадачы культурнай спадчыны ад пакалення да пакалення і заключаны галоўны сэнс выхавання і адукацыі. Культура ўтрымлівае ў сабе супольны сацыяльны вопыт народа. Засвойваючы культуру, дзіця далучаецца да інтэлектуальных, духоўных і матэрыяльных узораў чалавечых здзяйсненняў. У гэтых узорах першапачаткова закладзены чалавечыя здзяйсненні, розум і сэнс.

Элементамі інтэлектуальна-духоўнай культуры з'яўляюцца мастацтва, літаратура, мова, традыцыі, абрады, легенды, міфы, фальклор, уклад жыцця народа.

Культура як змест выхавання не можа быць прыўнесена ў школу толькі звонку, з дапамогай падручнікаў, праграм, розных шэфаў ад мастацтва. Культура павінна быць арганічнай часткай школьнага жыцця. Вучням разам з настаўнікамі неабходна штодзённа ў сваіх навучальных, працоўных справах і гульнях узнаўляць прадукты культуры.

### ПАЛАЖЭННЕ 3. Дыялектыка нацыянальнага і агульначалавечага ў выхаванні

У названых падыходах няма і не павінна быць ніякіх супярэчнасцяў. Псіхалагічны механізм засваення культуры, станаўлення характару наступны: ад простага і канкрэтнага да складанага і агульнаабстрактнага.

У адпаведнасці са сказаным увайсці у агульнаславянскую і сусветную культуру можна толькі праз культуру нацыянальную. Іншага шляху няма. Чалавек, які не засвоіў сваёй нацыянальнай культуры, не можа далучыцца да цывілізацыі.

Курс на падтрымку, а дзе трэба, дык і на адраджэнне нацыянальнай самасвядомасці, развіццё роднай мовы, калі ён не нясе ў сабе элементаў самаізаляцыі, нацыянальнага шавінізму, а разглядаецца як шлях у агульначалавечую культуру, прызнаны сёння сусветнай педагогікай адзіна правільным.

У дэмакратычнай краіне дзяржаўная школа павінна ўлічваць адукацыйна-культурныя патрэбы нацыянальных меншасцяў. Але гэта не азначае стварэнне школ з рознымі мовамі і нацыянальна-культурнымі зместамі навучання. Дзяржаўная школа павінна выхоўваць і вучыць дзяржаўнай культуры на дзяржаўнай мове. Але ў разумных межах школа павінна ў выпадках знаходжання у ёй пэўнай колькасці дзяцей іншых нацыянальнасцяў частку свайго навучальна-выхаваўчага працэсу накіраваць на вывучэнне адпаведнай нацыянальнай мовы, культуры, гісторыі.

### ПАЛАЖЭННЕ 4. Дыялектыка традыцый і навацый

Традыцыяналізм, альбо здаровы кансерватызм, жыццёва неабходны адукацыйна-выхаваўчай сістэме. Нельга праводзіць над дзецьмі непрадуманыя сацыяльна-педагагічныя эксперыменты.

Аднак, з другога боку, навацыі, творчасць — рухавік прагрэсу, у тым ліку і ў педагогіцы.

У беларускай савецкай педагогіцы адной з найбольш яркіх традыцый было выхаванне на баявым гераічным мінулым свайго народа. Гэтую традыцыю трэба захаваць. Але неабходна накіраваць яе не на падрыхтоўку да новай барацьбы з новымі ці старымі ворагамі.

Адна з важнейшых сучасных праблем сусветнай педагогікі — выхаванне ўмення жыць у полікультурным грамадстве, у добрасуседстве з усімі нацыямі, з тымі, хто не падобны на нас. Наша героіка-патрыятычнае выхаванне таксама трэба накіраваць на абуджэнне цікавасці і павагі да чужых нацый, іх культур і звычаяў.

У традыцыях беларускай народнай педагогікі шмат цікавых здабыткаў, якія пасьпяхова можна выкарыстоўваць і сёння. Напрыклад, стварэнне мадэлі выхаваўчай работы школы на аснове каляндарна-абрадавага цыкла народных святаў. Падрыхтоўка і правядзенне святаў, якія чарадой ідуць на працягу года, дазваляе скарыстаць разнастайную мастацкую спадчыну, выяўляць і развіваць творчыя здольнасці кожнаму удзельніку, далучыцца да багатай народнай гісторыі, традыцый, глыбей зразумець менталітэт, усвядоміць сябе беларусам.

### ПАЛАЖЭННЕ 5. Дыялектыка індывідуальнага і калектыўнага ў выхаванні

Савецкая педагогіка пакінула нам у спадчыну выхаванне ў калектыве і праз калектыў. У постсавецкай педагогіцы маятнік грамадска-педагагічнай думкі хіснуўся ў прама процілеглы бок — да выхавання індывідуальнасці. Сёння наша педагогіка ўсвядоміла, што тут таксама няма супярэчнасцяў, што магчымы і неабходны не проста кансенсус, а натуральная гармонія.

Па-першае, моцны калектыў атрымліваецца тады, калі складаецца з яркіх індывідуальнасцяў. Па-другое, кожны індывід жыве не на пустым востраве, а сярод людзей. Ён павінен уступаць у камунікацыі: грамадскія, вытворчыя, бытавыя, сямейныя. Уменню узаемін з іншымі людзьмі, ажыццяўленню пэўнай сумеснай дзейнасці трэба выхоўваць.

Таму тэорыя калектыўнага выхавання А.Макаранкі і сёння актуальная. Безумоўна, у сучасным яе прачытанні. У гэтым пераконваюць нас і выхаванне калектыўнага патрыятызму ў сучаснай педагогіцы Японіі, і брыгадная падрыхтоўка спецыялістаў ў сучаснай прафесійнай школе Германіі, і іншыя прыклады.

## АСНОЎНЫЯ ІДЭІ І НАПРАМКІ РЭФОРМЫ ВЫХАВАННЯ

**1. Арганізацыйна-псіхалагічная мадэль школьнага выхавання**

Як адзначалася вышэй, выхаванне маленькага грамадзяніна трэба пачынаць з малога і канкрэтнага. Гэта можа быць школьны патрыятызм — гонар за сваю школу. А для гэтага кожная школа, яе калектыў павінны мець сваю адметнасць, "свой твар", свае традыцыі, свае "калектыўныя творчыя справы" (І. Іваноў). Карацей кажучы, вучань павінен мець падставы ганарыцца сваёй школай і сам удзельнічаць у здабыванні новых падстаў для гонару.

Да прапанаванага вышэй каляндарна-абрадавага цыкла народных святаў у выхаваўчую мадэль школы можна ўвесці традыцыйныя школьныя святы: "Дзень нараджэння школы", "Першы званок", "Выпускны баль" і інш.

Для выхавання школьнага патрыятызму многае можа даць вучнёўскае самакіраванне. Каб павысіць яго эфектыўнасць, мэтазгодна самакіраванне ў школе будаваць па ўзоры спрошчанай мікрамадэлі палітычнай сістэмы грамадства. Гэта азначае, што ў мадэлі школьнага вучнёўскага самакіравання могуць быць такія атрыбуты, як альтэрнатыўныя выбары, прэзідэнт школы, кабінет міністраў, шматпартыйнасць, апазіцыя, рэферэндумы і г.д.

Выхаванне Грамадзяніна і Асобы, такім чынам, пачынаецца з выхавання гонару за сваю школу, сям'ю, горад, Айчыну і, нарэшце, Чалавецтва.

**2. Новае педагагічнае мысленне**

Усе рэформы адукацыі і выхавання ў школе магчымы толькі ў тым выпадку, калі іх усвядоміць, асабіста прыме і дзейнасна падтрымае настаўнік. За апошнім пойдуць і дзеці, і бацькі. Іншымі словамі, і нашаму настаўніцтву, і грамадству ў цэлым неабходна новае педагагічнае мысленне, якое б адпавядала ідэям і стратэгіі рэформы.

Шлях да новага педагагічнага мыслення — перабудова падрыхтоўкі настаўніка ў педВНУ. Неабходны новыя педагагічныя тэхналогіі працы са студэнтамі, заснаваныя на дэмакратызме, гуманізме, творчасці, самастойнасці.

Перспектыўнай бачыцца ў гэтым сэнсе "творчая педагагічная майстэрня" канкрэтнага выкладчыка ВНУ (прафесара, дацэнта). Існуючая міжпрадметная разбіўка пэўным чынам абязлічвае падрыхтоўку будучага настаўніка. Кожны выкладчык працуе ў рамках свайго канкрэтнага прадмета. А ці адбудзецца настаўнік, невядома. У выпадку ж выкарыстання "творчай педагагічнай майстэрні" ў "прадукцыі" (выпускніка) з'яўляецца аўтар — кіраўнік майстэрні.

Гэтая ідэя таксама не новая. Менавіта так працуюць ВНУ культуры і мастацтва. Але педагагічныя ВНУ пакуль што гэта не ўспрымаюць. Можа маштабы іншыя? Вялікая колькасць студэнтаў перашкаджае творча-індывідуальны падыход зрабіць у поўнай меры асновай навучальна-выхаваўчага працэсу.

**3. Сацыяльная педагогіка**

Месца жыхарства, сацыяльнае асяроддзе аказваюць значны ўплыў на фарміраванне асобы. Паводзіны дзіцяці выпрацоўваюцца ў працэсе адэкватнай дзейнасці — у школе, і асабліва у асяроддзі па месцы жыхарства. Узаемаадносіны у мікраасяроддзі — паміж сябрамі, суседзямі па дому, двары, мікраараёну — у высокай ступені рэгулююць фарміраванне асобы.

Аднак гэтыя працэсы пакуль што застаюцца па-за ўвагай выхаваўчых інстытутаў. Іншымі словамі, у выхаваўчай сістэме адсутнічае цэлае звяно. І гэта ў той час, калі, скажам, еўрапейская сацыяльная педагогіка мае больш чым 100-гадовы вопыт развіцця.

Такім чынам, даўно наспела неабходнасць стварэння дзяржаўнай сацыяльна-педагагічнай службы. Першыя крокі ў гэтым накірунку зроблены. Але яны вельмі нясмелыя і пакуль што значнага ўплыву на выхаванне дзяцей не маюць. Адсюль перспектыўнай бачыцца мадэль школы як адкрытай сацыяльна-педагагічнай сістэмы, павернутай да сацыяльнага асяроддзя. Да таго ж, трэба неадкладна ўводзіць прафесію "Сацыяльны педагог" у школы. Фінансавыя затраты ад гэтага з запасам акупяцца за кошт значнага аблягчэння работы праваахоўным органам і іншым сацыяльным інстытутам.

**4. Сямейная педагогіка**

Выхаванне дзяцей пачынаецца з сям'і. Усе астатнія выхаваўчыя інстытуты ўключаюцца ў педагагічны працэс значна пазней, калі маральны фундамент асобы дзіцяці ўжо закладзены. Таму цяжка пераацаніць ролю сям'і ў выхаванні.

Аднак сучасныя даследаванні паказваюць, што каля паловы нашых сем'яў нездавальняюча спраўляюцца з выхаваннем дзяцей. Прычын гэтага дзве: першая (знешняя) — нізкі сацыяльны статус і эканамічны ўзровень сям'і; другая (унутраная) — нізкі псіхолага-педагагічны і агульнакультурны ўзровень сям'і.

Першая прычына знаходзіцца ў кампетэнцыі дзяржавы і грамадства. А вось у ліквідацыі другой прычыны значную ролю магла б адыграць школа. Работа педагагічных калектываў з бацькамі патрабуе значнага пераасэнсавання, пошуку новых падыходаў, нетрадыцыйных форм. Дарэчы, тут ёсць агульнае поле для дзейнасці сацыяльнай і сямейнай педагогікі.

**5. "Педагагізацыя" сродкаў масавай інфармацыі (СМІ)**

Сёння СМІ, і асабліва тэлебачанне, сталі магутным сродкам выхаваўчага ўплыву. Але мы вымушаны зазначыць, што ўплыў гэты далёка не заўсёды станоўчы з педагагічнага пункту гледжання. У штатах тэлебачання і іншых СМІ не прадугледжаны ні псіхолагі, ні педагогі. Іншымі словамі, у рабоце важнейшага выхаваўчага інстытута фактычна не ўдзельнічаюць прафесіяналы.

На погляд шэрагу даследчыкаў, неабходна дзяржаўная праграма "педагагізацыі і псіхалагізацыі" (Я.Каламінскі) сродкаў масавай інфармацыі.

**6. Дзіцячыя арганізацыі**

Сярод дзяцей, у тым ліку ў школах, існуюць і піянеры, і скаўты, і іншыя арганізацыі і аб'яднанні. Педкалектывам трэба падтрымліваць усіх, хто станоўча ўплывае на выхаванне. Пры гэтым мы павінны ўсвядоміць, што стварыць усеабдымную дзіцячую арганізацыю накшталт былой піянерскай — мара сёння недарэчная. Арганізацыі і аб'яднанні павінны абапірацца на ініцыятыву саміх дзяцей. А перспектыўны напрамак калектыўнага выхавання, як адзначалася вышэй, гэта апора на калектывы школ і іншых навучальна-выхаваўчых устаноў, іх індывідуальнасць і самабытнасць.

Уладзімір ВАЛАДЗЬКО,
дырэктар Нацыянальнага інстытута адукацыі,
акадэмік Беларускай акадэміі адукацыі.

## НАВІНЫ

### БЕСПРАЦОЎНЫХ СТАНЕ МЕНШ

З лістапада ў Мазырскім ПТВ №228 пачалі працаваць курсы для беспрацоўных горада па іх перападрыхтоўцы на іншыя прафесіі. Для гэтага гарадская служба занятасці заключыла дагавор з вучылішчам.

Тут пачалі вучыцца 50 чалавек па дзвюх спецыяльнасцях.

Для будучых электраманцёраў спецыяльнымі праграмамі прадугледжаны 3-месячны тэрмін навучання, а для краўцоў — 6-месячны.

Усім зацікаўленым бакам гэтай акцыі — толькі карысць. Служба занятасці пералічвае ў бюджэт вучылішча за навучанне беспрацоўных неблагія грошы.

### ВЫБІРАЙ З ДЗЕСЯЦІ

450 школьнікамі 10—11 класаў ашмянскіх школ папоўнілася навучэнскае асяроддзе ПТВ №192. З гэтага навучальнага года гарадскі НВК перайшоў на базу прафтэхустановы для больш паспяховага авалодання рабочымі прафесіямі і эфектыўнага выкарыстання навучальных і вытворчых плошчаў.

У вучылішчы прынялі дзяцей гасцінна. Ім прадастаўлены добра абсталяваныя майстэрні, наглядныя дапаможнікі для навучання па дзесяці спецыяльнасцях: шафёра, трактарыста, сакратара-машыністкі, повара, токара, краўца і іншых.

### МІЛАСЭРНАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ

**"Творчасць і міласэрнасць" — так назвалі выставу разнастайных вырабаў у Мінскім доме тэхнічнай творчасці. Усё на ёй здавалася б звычайным, калі б не ведаць, што ўсе экспанаты зроблены інвалідамі. Цяжка было ўявіць, што прыгожыя мяккія цацкі, звязаныя сурвэткі і многае-многае іншае — праца інвалідаў з дзяцінства, інвалідаў працы і па зроку. Дзеці-інваліды прадставілі на выставу свае малюнкі.**

Экспанаты былі сабраны сюды з усёй краіны, і жадаючыя маглі іх купіць.

Каб засяродзіць увагу да праблем інвалідаў Беларусі, прыцягнуць да ўдзелу ў такой акцыі яшчэ больш удзельнікаў, адзін з арганізатараў выставы — Беларуская асацыяцыя дапамогі дзецям-інвалідам — збіраецца яе зрабіць перасоўнай.

Ала КЛЮЙКО.

## ЧАРГОВЫ НУМАР ЗБОРНІКА

У лістападаўскім нумары "Зборніка нарматыўных дакументаў Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь" друкуюцца чарговыя рашэнні Атэстацыйнай калегіі аб прысваенні вучоных званняў прафесара і дацэнта.

Да ведама педагагічных работнікаў даводзяцца наступныя загады міністэрства: "Аб распрацоўцы вучэбна-плануючай дакументацыі для прафесіянальна-тэхнічных навучальных устаноў", "Аб зацвярджэнні Прыкладнага палажэння аб дыягностыка-рэабілітацыйным цэнтры", "Аб зацвярджэнні Тыпавога палажэння аб атэстацыі і акрэдытацыі навучальных устаноў Рэспублікі Беларусь", "Аб зацвярджэнні інструкцый і метадычных рэкамендацый па правядзенні атэстацыі і акрэдытацыі навучальных устаноў Рэспублікі Беларусь".

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ.

**ПРАВЕРЦЕ ПРАВІЛЬНАСЦЬ АФАРМЛЕННЯ АБАНЕМЕНТА**

**На абанеменце павінен быць пастаўлены адбітак касавай машыны.**

**Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце прастаўляецца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).**

- - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - -

**Для афармлення падпіскі на газету або часопіс, а таксама для пераадрасавання выдання бланк абанемента з дастаўчай карткай запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, адпаведна ўмовам, выкладзеным у каталогах.**

**Запаўненне месячных клетак пры пераадрасаванні выдання, а таксама клеткі "ПВ-МЕСЦА" робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.**

# ПЕРШЫ. ЭКСПЕРЫМЕНТАЛЬНЫ. БЕЛАРУСКІ

**У сярэдняй школе №89 Мінска прайшла прэзентацыя 1-га "А" эксперыментальнага класа ўласнай мадэлі нацыянальнай школы**

Імпрэза пачалася з уступнага слова дырэктара Веры Пракопаўны Саладухі. Затым адбылося адкрыццё выставы "Шляхамі Адраджэння Беларусі", падарожжа па якой правялі: Валянціна Іванаўна Міхнавец (раздзел "Беларускі Рэнесанс эпохі Францішка Скарыны"), Галіна Іванаўна Кірычэнка ("Подступы да нацыянальнага вызвалення эпохі Францішка Багушэвіча"), Таццяна Пятроўна Аніфер ("Спроба нацыянальнага Адраджэння ў 10—20 гадах XX стагоддзя"), Таццяна Мікалаеўна Тарасенка ("Барацьба за нацыянальнае Адраджэнне ў сучаснай Беларусі: ад Якуба Коласа да Васіля Быкава"), Тамара Франкаўна Аўсянская ("Сцежкі Адраджэння ў школе №89").

Святочны пачатак заняткаў (падарожжа па класах) даў магчымасць пабачыць фрагменты ўрокаў роднай мовы, нашага беларускага танца, фальклорнага тэатра, песні, замежнай мовы.

Потым быў маленькі прывал з пачастункам і музыкай, словы вучням, бацькам і настаўнікам на дарогу (слова вучняў Сенніцкай агульнаадукацыйнай школы імя Янкі Купалы і слова вучняў беларускамоўных класаў школы №89). Былі падарожжа ў будучыню, канцэрт і прывітальныя словы гасцей — прадстаўнікоў райана і Міністэрства адукацыі і навукі, з дапамогай якіх і змагло адбыцца гэтае свята. І не толькі свята, але і само паўстанне эксперыментальнага класа, як, зрэшты, і самой школы, якая яшчэ ў 1988 годзе перайшла на беларускія рэйкі.

Адкрыццё 1-га "А" класа завяршылася вялікім прывалам, пад час якога прайшла дэгустацыя страваў нацыянальнай кухні для школьнай сталовай. Мушу прызнацца, што бульбянікі беларускія былі — адна смаката! Застаецца толькі пажадаць, каб нашы дзеткі маглі смакаваць іх у сталоўках кожнай беларускай школы.

А яны, дзеткі нашы, вартыя куды большага. Трэба было бачыць, як гарэлі іх цікаўныя вочкі, назіраючы за ходам свята; як гэтыя трапяткія беларусікі, апранутыя ў пашытыя мамамі ці бабулямі цудоўныя белыя строі, прамаўлялі словы сваёй роднай мовы! Нельга, ніяк нельга нам страціць гэта пакаленне, нашу будучыню, наш працяг у жыцці, духоўны і фізічны. І гэта, на вялікае шчасце, разумее настаўніцкі калектыў 89-й, які складаюць пераважна жанчыны. Яны ўзялі на сябе вялікую адказнасць: выхаваць і вывучыць не проста чалавека, здольнага больш-менш паспяхова функцыянаваць у сучасным грамадстве, а свядомага Беларуса.

Ідэя эксперыментальнага класа ўласнай мадэлі нацыянальнай школы палягае ў тым, каб навучыць школьнікаў асновам беларускай народнай творчасці. Першакласнікі будуць займацца з майстрамі мастацкай працы — саломап-






ляцення, ткацтва, песні, танца. Зразумела, што абавязковымі застаюцца агульнаадукацыйныя прадметы.

Каб дапамагчы рэалізаваць добрую ідэю, у школу прыйшоў часовы навукова-даследчы калектыў пад кіраўніцтвам кандыдата мастацтвазнаўства, дацэнта Беларускага універсітэта культуры Іллі Сучкова, які дагэтуль працаваў над канцэпцыяй нацыянальнай школы ў Сенніцы. Пры нашай размове Ілля Іванавіч заўважыў, што працаваць трэба не толькі з дзецьмі, але і з іхнімі бацькамі, з настаўнікамі як агульнаадукацыйных прадметаў, так і з выкладчыкамі прадметаў фальклорнага цыклу. Каб апошнія былі здольныя ўвязваць, спалучаць выкладанне, напрыклад, народнай музыкі з агульнаадукацыйным курсам, з той жа матэматыкай. Як вядома, музыку і матэматыку лучыць адно — гармонія гукаў і лічбаў.

Першы намеснік міністра адукацыі Генадзь Пятроўскі, які прысутнічаў на свяце, асабліва падкрэсліў той момант, што стварэнне эксперыментальнага класа нельга разумець як вяртанне да атрыбутыкі сялянскага побыту, сымболем якога з'яўляюцца лапці. Наадварот, навучанне народным промыслам, народай песні і танцу — гэта першы крок на шляху да стварэння нацыянальнай школы, праз якую потым нашы новыя пакаленні змогуць з годнасцю ўвайсці ў агульналюдскую супольнасць, захаваўшы пры гэтым святое найменне сваіх продкаў.

Напрыканцы святочных клопатаў я папрасіў дырэктара школы Веру Пракопаўну сказаць колькі словаў з нагоды адкрыцця эксперыментальнага класа:

— Калі мы яшчэ ў 1988 годзе надалі нашай школе статус беларускай і пачалі працаваць, то адразу задумаліся: ну, перайшлі на родную мову, ну, вывучаем... А як жа адрадзіць народныя традыцыі? Стварэнне эксперыментальнага класа — наш адказ на гэтае пытанне. Дзякуй таксама сп.Пятроўскаму за ягоныя клопаты. Ён выпрацаваў планы, у якія, акрамя дзяржаўнага, увёў школьны кампанент, што дазваляе выдзеліць гадзіны для мастацкай працы, песні, музыкі. Магчыма, калі ўсё будзе добра, на наступны год усе першыя класы будуць працаваць па праграме сёлетняга эксперыментальнага. Калі, вядома, дазволяць фінансаванне і наяўнасць прафесійных кадраў.

У нас добрыя адносіны з раённым аддзелам адукацыі. Мне, аднак, не падабаюцца выказванні прэзідэнта пра тое, што можна вучыць і на рускай мове, і на беларускай. Згубіўшы родную мову, мы перастанем існаваць як народ.

Што ж датычыцца дапамогі, дык яе аказваюць былыя базавыя прадпрыемствы: "Мінскбудматэрыялы" і прадпрыемства па грузаперавозках "Атэк-5".

... І яшчэ шмат цікавага распавялі мне настаўніцы 89-й школы. З іх шчырых прызнанняў стала зразумелым, чаму менавіта яны ўзяліся за выхаванне дзяцей у нашым беларускім духу. Ды таму, што амаль кожная з гэтых цудоўных беларускіх жанчын у той ці іншы перыяд свайго жыцця перажыла шок нацыянальнай паняверкі, памяць пра якую і праявілася пасля ў іх актыўнай працы на ніве Беларушчыны.

Будзьма спадзявацца, што гадаванцы нашай беларускай школы, дзе б яна ні знаходзілася, пайшоўшы заўтра ў дарослае жыццё, будуць шчасліва пазбаўлены таго нацыянальнага ўціску, які перажылі і яшчэ перажываюць іх бацькі.

Славамір АДАМОВІЧ.

